# НАША КНІГА ПРЭЗЕНТУЕЦЦА

30 у гарадах усіх кантынентаў. Акрамя іх арганізуецца вялікая колькасць спецыялізаваных і рэгіянальных кірмашоў і выстаў.

**— У якіх міжнародных выставах, кірмашах, імпрэзах удзельнічала беларуская кніга? Якія падобныя акцыі наладжваліся тут, на Беларусі?**

— Кнігавыдаўцы Беларусі на працягу апошніх гадоў рэгулярна прымаюць удзел у Варшаўскім, Маскоўскім і Франкфурцкім кніжных кірмашах. Арганізатары кірмашоў ставяць сваёй мэтай не толькі актывізаваць продаж кніжнай прадукцыі, але і пашыраць дзелавыя і камерцыйныя кантакты кнігавыдаўцоў, весці абмен інфармацыяй па самых розных напрамках кнігавыдавецкай дзейнасці. У час кніжных кірмашоў, як правіла, адбываюцца канферэнцыі, семінары, конкурсы. Неабходна адзначыць, што арганізацыя міжнароднага кніжнага кірмашу — справа вельмі складаная, аднак прэстыжная для дзяржавы-арганізатара. У нас на Беларусі, пачынаючы з 1994 года, праводзіцца Мінскі міжнародны кніжны кірмаш. Яго ініцыятарам была вытворча-камерцыйная фірма "Макбел". Дзяржкамітэт па друку і Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў з'яўляюцца аднымі з арганізатараў гэтага кірмашу і прымаюць неабходныя намаганні, каб палепшыць узровень яго падрыхтоўкі і правядзення.

**— Якія існуюць кнігавыдавецкія сувязі з Польшчай: з польскімі фірмамі, выдавецтвамі, дзяржаўнымі ўстановамі? Напрыклад, з кірмашом у Варшаве?**

— На працягу апошніх пяці гадоў кнігавыдаўцы Беларусі — сталыя ўдзельнікі Варшаўскага кніжнага кірмашу, на якім прадстаўляюць свае выданні на нацыянальнай экспазіцыі "Кнігі Рэспублікі Беларусь". Яго экспанентамі былі ўсе дзяржаўныя і шэраг недзяржаўных выдавецтваў, кнігагандлёвае прадпрыемства "Белкніга", Мінская фабрыка каляровага друку. Яны правялі дзелавыя перамовы і наладзілі ўзаемавыгадныя кантакты з партнёрамі з розных краін. Так, усе выдавецтвы заключылі дамовы з Цэнтрам славянскай кнігі "Славіка" і магазінам "Русалка" на распаўсюджванне беларускай кнігі ў Польшчы і іншых краінах Заходняй Еўропы. Па набытых на кніжных кірмашах правах выдадзены ў Беларусі кнігі "История Европы" (выд. "Вышэйшая школа"), "Анатомия и физиология человека. Учебник для медучилищ" (выд. "МЕТ") і іншыя.

На 42-м Варшаўскім кніжным кірмашы, які адбудзецца 15—19 мая 1997 года, будзе прадстаўлена больш за 200 назваў кніг па ўсіх галінах ведаў, якія былі выдадзены летась і сёлета. Гэта кнігі, прысвечаныя гісторыі і культуры нашай краіны, вынікам у развіцці навукі, тэхнікі, эканомікі. На стэндзе будуць прадстаўлены творы сяброў Беларускай рады пісьменнікаў, якія жывуць і працуюць у Польшчы: М.Гайдука "Белавежскія быліцы і небыліцы" (выд. "Юнацтва") і В.Петручэнкі "Пожня" (выд. "Мастацкая літаратура").

У дні кірмашу будзе праведзены Дзень беларускай кнігі. Нашы сябры і дзелавыя партнёры пазнаёмяцца з кнігавыдавецкай справай незалежнай Беларусі, сучасным становішчам, перспектывамі развіцця і шляхамі супрацоўніцтва беларускіх выдаўцоў з іншымі краінамі. Тут адбудуцца прэзентацыі такіх новых кніг выдавецтваў Беларусі ("БелЭн" імя П.Броўкі, "Юнацтва", "Беларусь"), як "Беларуская энцыклапедыя" ў 18 тамах, "Белавежскія быліцы і небыліцы", "Беларускія народныя музычныя інструменты".

**— Назавіце, калі ласка, лепшыя выданні апошняга часу, якія, на ваш погляд, сталі з'явай культуры.**

— Штогод Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку праводзіць рэспубліканскі конкурс "Мастацтва кнігі", на якім вызначаюцца лепшыя выданні мінулага года. Вынікі апошняга конкурсу паказалі, што ў 1996 годзе адметнай з'явай культуры сталі такія высокамастацкія, цікавыя па сваім змесце выданні, як "Беларуская энцыклапедыя" ў 18 тамах, "Беларускі арнамент" М.Кацара (выдавецтва "БелЭн"), мініяцюрнае выданне "Байкі" К.Крапівы (выдавецтва "Мастацкая літаратура"), вучэбны дапаможнік "Гісторыя мастацтваў" Б.Лазукі (выдавецтва "Беларусь"), "Беларусь: среда для человека. Национальный отчет" (Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь), дзіцячыя кніжкі "Хоббит, или Туда и обратно" Дж.Толкіна (выдавецтва "Кавалер"), "Маленькая Баба Яга. Маленький Водяной" О.Пройслера (РВФ "Сказ") і шэраг іншых.

# ДАРОГА ДА ЎЗАЕМНАСЦІ

***22—24 красавіка ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце прайшла VI міжнародная канферэнцыя "Albarossika, Ruthenika, Polonika". Але сёлета яе тэматыка была пашырана і да праблем мовазнаўства і літаратуразнаўства дадаліся пытанні гісторыі і культуралогіі. Быў прадстаўлены і новы накірунак даследаванняў — лінгвакультуралогія. Як адзначыла віцебскі прафесар В.Маслава, мова і культура безупынна знаходзяцца ва ўзаемадзеянні, дыялогу, таму ўзнікае патрэба прасочвання гэтай тоеснасці.***

***Сімвалічна, што гісторыя станаўлення віцебскай канферэнцыі ўшчыльную звязана з культурна-песеннай традыцыяй. Колькі гадоў таму ў Віцебску праходзіў фестываль польскай песні, які быў удзячным адказам на фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры. Тады віцебская навуковая канферэнцыя была часткай культурнай праграмы фестывалю. Цяпер жа час правядзення канферэнцыі і час сустрэчы спевакоў размежаваўся. Канферэнцыя праходзіць кожныя два гады. Але падобна як песенны фестываль пераўтварыўся ў вялікае свята мастацтва "Славянскі базар", так і канферэнцыя мае перспектывы стаць у трэцім тысячагоддзі форумам мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і культуролагаў.***

***У сёлетняй канферэнцыі прынялі ўдзел 194 навукоўцы з 9 краін, працавала 10 тэматычных секцый. Былі ўзнятыя праблемы польска-беларускага і беларуска-рускага пагранічча, пытанні моўных і літаратурных узаемасувязяў, культурна-нацыянальная спецыфіка, лёсы старажытнасці і сучаснасці.***

***З удзельнікам канферэнцыі — загадчыкам кафедры беларускай філалогіі, прафесарам Варшаўскага універсітэта, які ўзначальвае яе ўжо больш за 20 гадоў, старшынёй Польскага беларусазнаўчага таварыства, пісьменнікам Аляксандрам БАРШЧЭЎСКІМ размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

**— Як вы ацэньваеце гэтую канферэнцыю? Якім менавіта чынам уплываюць падобныя мерапрыемствы на культурнае ўзаемаўзбагачэнне краін-удзельніц?**

— Калі існаваў сацыялізм, пра дружбу народаў у асноўным гаварылі правадыры гэтых народаў, хаця самі народы ў поўнай меры не мелі магчымасці кантактаваць паміж сабою: перашкоды ў выглядзе межаў былі такія, што перамагчы іх было вельмі цяжка. Віцебская канферэнцыя ёсць пярэчаннем той заганнай традыцыі. Сёння не было тут ніякіх правадыроў, а сустрэліся дзеячы навукі і культуры, якія без перашкод з розных краін прыехалі і маглі абсалютна свабодна, не кіруючыся чужымі поглядамі, выказаць свае думкі, свае ідэі. І, думаю, што нішто гэтак не збліжае людзей, як магчымасць шчырага выказвання. Тут гэткая магчымасць была, і, на маю думку, гэтая канферэнцыя ў кожным аспекце зблізіла і тых людзей, якія непасрэдна прымалі ў ёй удзел, і ўвогуле навукі і культуры тых краінаў, прадстаўнікі якіх тут прысутнічалі. Калі магу сказаць крытычнае слова, то для мяне асабіста тут было мала "беларускага элементу". Сам факт, што многія прадстаўнікі універсітэта паслугоўваліся рускай мовай, для мяне крыху балючы. Але ўсё ж я быў па-добраму здзіўлены, што і рэктар універсітэта сп. Вінаградаў і прарэктар сп.Дарафееў дасканала валодаюць беларускай мовай. Хацелася б, каб такога кшталту канферэнцыі не толькі набліжалі да сябе вучоных розных краін, але каб умацоўвалі тое, што для Беларусі найважнейшае — маю на ўвазе стан беларускага нацыянальнага гонару, мовы і культуры. Трэба падтрымліваць гэтыя субстанцыі, і мы, беларусы, незалежна ад таго, куды нас лёс кінуў (а я беларус, які ўсё жыццё жыве ў Польшчы), мусім сябе шанаваць.

**— У 1994 годзе на гэтую канферэнцыю прыехала ўсяго толькі два прадстаўнікі Польшчы, а цяпер — больш за дваццаць. Чым абумоўлены гэты інтарэс?**

— Добрыя весткі аб гэтай канферэнцыі дайшлі шырока да польскага навуковага асяроддзя. Гэта значыць, што канферэнцыя каціруецца высока і адпавядае навуковым інтарэсам.

**— Вы казалі, што ў вас у Варшаве займаюцца студэнты-паляхі, якія вывучаюць беларускую філалогію. Што іх прыцягвае?**

— Не толькі ў Варшаве, але ў Любліне і Беластоку. Калі ў часе прыёму на першы курс ў 1991, 1992, 1993 гадах я пытаўся ў абітурыентаў — чаму вы выбіраеце беларускую філалогію і чаму вас столькі многа прыходзіць, бо раней было намнога менш, — яны мне гаварылі: Беларусь стала незалежнай дзяржавай, мы верым, што будуць нармальныя стасункі паміж Польшчай і Беларуссю. І дыпламатычныя, і эканамічныя, і культурныя... і што нашы беларусазнаўчыя веды прыдадуцца ў будучыні і нам асабіста, і нашым дзяржавам. Польскай і Беларускай.

**— Ці хапае вам вашай ініцыятывы і энергіі па прапагандзе беларускай культуры і мовы ў Польшчы?**

— Хапае, бо чуем падтрымку з боку Польскай дзяржавы. Мы можам адкрыць любую колькасць кафедраў беларускай філалогіі, калі толькі будуць кандыдаты. Мы можам павялічваць квоты. Мы набіралі калісьці 10 студэнтаў на першы курс, а сёння маем права набраць 30 студэнтаў. Але калі ідзем і гаворым, што набралі 46, як гэта было летась, то ў нас пытаюцца, ці не пойдзем мы патрабаваць новых штатаў і новых памяшканняў. Гэта добра, але гэта яшчэ не ўсё. У Польшчы вельмі часта арганізуюцца канферэнцыі, прысвечаныя беларуска-польскім літаратурным і моўным стасункам. Наша кафедра, напрыклад, арганізуе кожны год такую канферэнцыю ў Белай Вежы "Дарога да ўзаемнасці", але і іншыя універсітэты — таксама. У Польшчы ёсць неабмежаваныя магчымасці друкаваць навуковыя працы, прысвечаныя беларусазнаўству ў розных галінах. Можна друкавацца ў навуковых часопісах як па-польску, так і па-беларуску. У Польшчы выходзяць дзве беларускія газеты, існуе беларускае літаратурнае аб'яднанне, якое атрымлівае значныя грошы на выданне беларускіх літаратурных твораў. Гэта ж не толькі наша ініцыятыва і энтузіязм, хаця яны і істотныя, першарадныя, але і падтрымка дзяржавы.

**— Дзякуй за размову.**

---

даведнікам: грыб, а каля грыба — ягоны вершаваны партрэт. Калі прачытаць і паглядзець, то дзеці ўжо не зблытаюць бледную паганку з шампіньёнам. А там апісаны каля чатырох дзесяткаў відаў грыбоў, якія сустракаюцца ў нашых лясах: тыя, што можна з'есці, і тыя, што есці нельга. Так вось з'явілася гэтая кніжка, і тут сапраўды ўнукава заслуга немалая.

**А.Р.:** Вы прыгадалі работу над паэмай "Лукам'е", а як працавалася над "Маўчаннем травы"? Гэтая паэма пакідае вельмі моцнае ўражанне, ды і адзначана яна высока — Дзяржаўнай прэміяй.

**В.З.:** Там усё сказана ў падзагалоўку: паэма лёсу. Сапраўды, тут раскрываецца найперш мой лёс асабісты, а праз яго — лёс блізкіх мне людзей, маіх аднавяскоўцаў, каб гучна не гаварыць — лёс народа. За кожным канкрэтным чалавекам стаіць лёс яго народа. Гэтыя іпастасі і катэгорыі неразлучныя, падзяляць іх нельга. І вось тут, якраз у гэтай паэме, мой дзіцячы лёс, убачаны з вышыні сённяшняга часу, з вышыні перажытага пасля. Тыя падзеі, якія ляглі ў аснову гэтага твора, і тое, што бачылася мне ў маленстве, узбагачаецца маім наступным жыццёвым вопытам. У паэме ўсё гэта зніТавана. Як у мяне атрымалася: удалося ці не ўдалося, мне цяжка меркаваць. Але работа гэтая для мяне была вельмі важная. Прычым паэма "Маўчанне травы" — асноўная частка задуманай мною кнігі. У мяне ёсць пяць паэм: ужо названая "Маўчанне травы", "Лукам'е", "Прыцягненне", "Сяліба" і, нарэшце, "Падарожжа вакол двара" — апошняя, якую я напісаў пяць гадоў таму. Як можна было здагадацца па ўскосных прыкметах, гэта адзінае цэлае, хоць пісаліся паэмы і з'яўляліся ў асобных маіх кнігах. Нарэшце, усе яны сабраліся зараз у адну кніжку — "Пяцірэчча". Нават уступ да яе быў напісаны далёка да здзяйснення гэтай задумы, верш "Пяцірэчча" увайшоў яшчэ ў кнігу "Лукам'е". Так што быццам бы ўсё ішло бессістэмна, а ў той жа час сістэма ў мяне ўсё ж такі была. Задума, як бачыце, здзейснена, але кніга гэтая пакуль што не выдадзена, дасць Бог, можа яна і выйдзе. Будзе яна выходзіць, як другі том да майго выбранага. Першы том ужо выйшаў, а вось наконт "Пяцірэчча" я трывожуся...

**І.Ш.:** Будзем дапамагаць і будзем новага старшыню дзяржкамдруку прасіць. Ужо каб не выйшаў том паэм, над якім працаваў такі выдатны паэт, як Зуёнак — гэта сорам усім нам і сорам усёй нашай культуры! Трэба сказаць, што культура наша наогул у цяжкім стане, і гэта вельмі сумна. Вось такі прыклад. Калі ў 1990 годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" мела ў сваіх планах 220 назваў кніг, перакладных і арыгінальных, то на гэты, 1997 год запланавана выдаць усяго 28. Гэта лічба гаворыць сама за сябе.

У цяжкім становішчы тэатр, у надзвычай цяжкім — кіно. Наша студыя выконвае заказы з замежжа. Амерыканскім кінематаграфістам выгадней зняць фільм на нашай кінастудыі, чым у сябе. Прывяду такі прыклад. Яшчэ ў 1994 г. Ігар Дабралюбаў паставіў фільм па маіх аповесцях — "Эпілог". Дык да гэтага часу ён не быў у пракаце. Купіла адна вобласць — Магілёўская, і ўсё. І самае парадаксальнае, што і паскардзіцца няма каму... Канешне, усё звязана з фінансаваннем, з нашай эканомікай. Калі ў дзяржаўным бюджэце на культуру будзе адводзіцца крышку больш, то і становішча будзе лепшае. Што казаць, народ жыве вельмі бедна, а многія пісьменнікі жывуць сёння проста па-жабрацку, канцы з канцамі не могуць звесці...

**А.Р.:** Дарэчы, хутка пачнецца летні сезон, сезон адпачынкаў. Дом творчасці пісьменнікаў "Іслач", дзе раней члены саюза маглі адпачыць і папрацаваць таксама, відаць, рыхтуецца да летняга сезона?

**В.З.:** Што ж, дом гэты добры для адпачынку і творчай працы, але яго спасціг лёс усіх гэтых дамоў санаторнага тыпу: пуцёўкі зараз вельмі дарагія, і кошт іх пастаянна расце, таму што расце плата за святло, за жылплошчу і г.д.

**А.Р.:** А льготы на пуцёўкі для пісьменнікаў ветэранаў і пенсіянераў засталіся?

**В.З.:** Так, ільготы і зараз ёсць: за плошчу здымаецца аплата зусім, за харчаванне значную скідку рабіў літфонд. Так што пуцёўкі для пенсіянераў і ўдзельнікаў вайны, членаў літфонду, былі і ёсць у разоў пяць танней, чым за поўны кошт пуцёўкі.

**В.З.:** Тут трэба згадаць і пра аплату пісьменніцкай працы, яна таксама не на належным узроўні, і калі чалавек працуе над раманам два-тры гады і атрымлівае за гэта месячны заробак нейкага бізнесмена, дык тут ёсць над чым падумаць і дзяржаве, і дзяржаўным мужам. Ніхто з пісьменнікаў, з творчых людзей не рвецца ў багатыя, але трэба, каб ён сябе па-чалавечы адчуваў і мог аддацца на ўсю моц творчай справе.

**І.Ш.:** У Саюзе пісьменнікаў заўсёды раней былі добрыя адносіны з кіраўнікамі дзяржавы. Прыгадваю Пятра Міронавіча Машэрава. Гэты дом — Дом літаратара — яго заслуга, яго ідэя. У свой час па рашэнні ЦК Савет Міністраў выдзеліў частку грошай, частку таксама выдзеліў Літфонд СП — на іх і быў пабудаваны гэты дом, у якім мы жывем ужо 22 гады. Тут праходзіць уся творчая работа СП: вечары, і паседжанні секцый, і творчыя сустрэчы, ды і пахаванні. У рэшце рэшт, пісьменніка і пахаваць трэба па-чалавечы... Гэты дом для нас вельмі дарагі і нас насцярожыла, калі пайшлі чуткі, што яго збіраюцца ў нас адняць...

**А.Р.:** І наколькі гэтыя чуткі мелі пад сабой падставу?

**І.Ш.:** Думаю, што гэтага не павінна здарыцца, калі так будзе працягвацца, мы будзем звяртацца да Прэзідэнта. Наогул гэтае пытанне, што так нечакана ўзнікла, не на карысць умацаванню добрых узаемаадносін паміж пісьменнікамі і Прэзідэнтам.

**А.Р.:** Васіль Васілевіч, як жа Вам удаецца сумяшчаць кіраўніцтва Саюзам у наш, такі складаны час, з творчай працай?

**В.З.:** Літаратура — гэта каханая жанчына і тут любыя другія клопаты саступаюць ёй месца. Дзе б ні быў пісьменнік, у якой бы сітуацыі ні апынуўся, ён заўсёды глядзіць на падзеі вокам мастака. Вось да прыкладу: Іван Пятровіч сядзеў калісьці на паседжанні Вярхоўнага Савета альбо тут, у гэтым кабінеце, дзе, дарэчы, прапрацаваў 26 гадоў, а вокам мастака ўвесь час фіксаваў і ў думках сваіх кампанаваў свае будучыя раманы. Так што пісьменнік, магчыма, і на шкоду сабе, сваім нейкім духоўна-інтымным стасункам стараецца заўсёды вывудзіць нешта для будучага твора. Такая ўжо доля паэта, наогул, творчага чалавека.

**А.Р.:** Значыць у пісьменніка ўвесь час ідзе падсвядомая работа?

**В.З.:** Так, як бы там ні было, заўсёды аддаецца перавага літаратуры, можа гэта творцам і не фіксуецца, але ідзе назапашванне матэрыялу і таму работа пісьменніка пастаянная, тут выхадных няма і вольных дзён таксама. Так што праца пісьменніка і нараджаецца з яго паўсядзённых клопатаў: грамадскіх, асабістых, нават бюракратычных. Хоць тут, у Саюзе пісьменнікаў, ніколі і не было бюракратычных кіраўнікоў. Усё ў нас робіцца на ўзроўні чалавечнасці, калі ты пачнеш з сябе корчыць бюракрата, то тут адразу засмяюць, доўга ва ўсякім разе не прапрацуеш.

**А.Р.:** Сярэдні ўзрост членаў СП?

**І.Ш.:** Узрост, на жаль, стараваты, па рознаму складваўся лёс у людзей, прыём у Саюз часцяком зацягваўся і СП старэў.

**А.Р.:** Работа СП з маладымі?

**В.З:** Якраз тут, у Доме літаратара, знаходзіцца часопіс маладых "Першацвет". Новая літаратурная плынь пры "Першацвеце" вельмі светлая, без адмаўлення таго, што зроблена старэйшымі пакаленнямі. Гэта вельмі каштоўная рыса — не адмаўляць. Што такое адмовіць? — Гэта ж голая дэкларацыя! А ты зрабі сам, зрабі лепш за папярэднікаў, пакажы на што ты сам здатны. Вось быў нейкі перыяд, гадоў 10 таму, калі ў маладых пачалася тэндэнцыя палемізаваць са старэйшым пакаленнем. "Тутэйшыя" пачалі ставіць нейкія пытанні задужа катэгарычна, і я помню, як Анатоль Сыс прыводзіў маладых літаратараў на сустрэчы з Максімам Танкам, Нілам Гілевічам. Трэба было бачыць і чуць, як мудра ставіўся да іх Яўген Іванавіч. У яго рэпліках было такое: "Ну, пачакайце, хлопцы, зрабіце што-небудзь для літаратуры, а пасля пагаворым! Тады і будзе пра што гаварыць!" Праз нейкі час нехта з гэтых задзірыстых "тутэйшых" сябе сцвердзіў, з разуменнем справы прышоў у СП і зараз працуе, а нехта пабоўтаўся на гэтай хвалі і знік. Так што адмаўляць — гэта самае лёгкае. Найперш пакажы, на што ты сам здатны. А абсмяяць, апляваць некага — гэта не варта творчага чалавека і высокага творчага парыву, творчы чалавек сцвярджае сябе творчасцю!

(Заканчэнне на стар. 9.)

**Дамаўляючыся аб сустрэчы са старшынёй Беларускага фонду культуры Уладзімірам ГІЛЕПАМ, я даведалася, што фонд, дзякуючы добрым да яго адносінам з боку Мінгарвыканкама, толькі што "пераехаў" у Траецкае прадмесце, на бераг Свіслачы, і знаходзіцца якраз насупраць былога цэнтра старажытнага Менска, дзе некалі рабіў свае першыя раскопкі археолаг Гілеп.**



# "РАСКОПЫ" УЛАДЗІМІРА ГІЛЕПА

**— Гэта выпадковасць, Уладзімір Аляксандравіч?**

— Не. Я сам выбіраў гэтае месца для Фонду культуры, бо лічу, што ранейшае — няхай нават у самім цэнтры, каля цырка — так бы мовіць, эстэтычна не падыходзіць да такой установы, як Фонд культуры: занадта там шмат машын, тлуму і мітусні. Будынак жа, у якім мы знаходзімся зараз — самы першы з адрэстаўраваных у Траецкім прадмесці, якое, без перабольшання, даўно стала візітоўкай нашай сталіцы з прычыны сваёй адметнасці і даўніны. Сапраўды, з гэтым месцам асабіста ў мяне шмат чаго звязана: у час раскопак я жыў тут у суседнім будынку, самі раскопкі далі мне шмат уражанняў і задавальнення як першая археалагічная праца, дзе я пазнаёміўся з такімі выдатнымі археолагамі, як Загарульскі, Штыхаў, не кажучы ўжо пра тое, што менавіта тут, на раскопках старажытнага Менска, я сустрэўся са сваёй будучай жонкай...

**— Я папрасіла вас расказаць аб тым, як супрацоўнічае Фонд культуры з нашымі суседзямі-палякамі, не выпадкова: 20 мая адбудзецца падпісанне Дамовы аб супрацоўніцтве ў галіне культуры з польскім Фондам культуры. Няўжо дасюль не было такой дамовы паміж нашымі фондамі?**

— Як ні дзіўна, — не. Супрацоўнічалі паміж сабою нашы Міністэрствы культуры ў рамках падпісаных міжнародных пагадненняў. Аднак ранейшы Фонд культуры заставаўся ад гэтага як бы ў баку. Між тым у нас ёсць даволі вялікія магчымасці істотна ўплываць на працэс пашырэння ўзаемаадносін у галіне культуры, навукі і адукацыі. Таму, як толькі мяне выбралі на гэтую пасаду (а гэта, як Вы ведаеце, адбылося не так і даўно), я вырашыў аднавіць былыя сувязі паміж Беларускім фондам культуры і нашымі суседзямі — Літвою, Латвіяй, Польшчай, Расіяй і Украінай. У верасні 1996 года мы сабраліся ў Гродне і падпісалі пагадненне, у якім, у прыватнасці, ёсць рашэнне збірацца кожны год з мэтай вырашаць нашы агульныя праблемы. Сёлета, напрыклад, мы сустракаемся з літоўцамі і працягнем працу па аднаўленні беларускага музея ў Вільні. Прэзідэнт латышскага Фонду культуры Рамона Умбля рыхтуе дакументы, якія тычацца святкавання агульных для нашых культур юбілеяў і святаў. Да нашага агульнага саюза мяркуюць сёлета далучыцца славакі і чэхі.

**— А якія пытанні будуць уздымацца ў польска-беларускай Дамове?**

— Іх нямала. Надыходзіць 200-гадовы юбілей Адама Міцкевіча. Мы рыхтуемся да яго разам з палякамі. Будуць выдадзены картысхемы "Шлях Міцкевіча" на беларускай, польскай і англійскай мовах. Мяркуем дапамагчы Міністэрству культуры стварыць у Завоссі, дзе нарадзіўся паэт, пастаянную экспазіцыю і ўключыць гэтую мясціну ў экскурсійны маршрут "Шляхам Міцкевічаў" — двух слынных сыноў зямлі беларускай — Якуба і Адама. У 1999 годзе будзем адзначаць 180-ю гадавіну з дня нараджэння Станіслава Манюшкі — дарэчы, сёлета на Беларусі шырока адзначаецца 125-я гадавіна з дня яго смерці, зусім нядаўна прайшлі навуковыя чытанні ў "Беларускай капэле" і канцэрт. Сумесна з палякамі мы будзем рэстаўраваць музей у былым фальварку Убель, магчыма, мы здолеем зрабіць там музычны салон. У наступным годзе надыходзіць 175-годдзе з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі, над праведзеннем якога мы таксама будзем працаваць разам. Такое супрацоўніцтва ўяўляецца мне вельмі перспектыўным — беларуская зямля дала шмат выдатных талентаў, якія ўзбагацілі нашы культуры, сусветную культуру. Я не буду тут узгадваць у чарговы раз, што толькі ў апошнія гады, з аб'яўленнем незалежнасці Беларусі, стала магчымым напоўніцу гаварыць аб шматвяковых культурных і дзяржаўных стасунках паміж нашымі краінамі.

**— І не толькі гаварыць, але і аднаўляць іх. Адзін з такіх сімвалаў аднаўлення — стварэнне па Вашай ініцыятыве фонду "Крэва". Прызнаюся, мне надта цікава, што фонд, куды далі згоду ўвайсці палякі, літоўцы, украінцы і беларусы, будзе садзейнічаць рэстаўрацыі і музеефікацыі замка, дзе ў 1385 годзе адбылося заключэнне уніі — саюза паміж нашымі дзяржавамі, які доўжыўся чатыры стагоддзі. Гэтыя стагоддзі ўключылі і драматычныя старонкі нашых узаемадачыненняў, аднак яны далі агульную далучанасць да еўрапейскай дэмакратыі і культуры, што так важна для нас і сёння. Я ведаю, Уладзімір Аляксандравіч, што палякі маюць намер часткова фінансаваць гэты праект, як і іншыя нашы сумесныя праекты?**

— Так. Сярод гэтых "іншых" — рэстаўрацыя унікальнага іканастаса ў Будславе, дзе знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай Будслаўскай, які на працягу стагоддзяў служыў месцам паломніцтва і пакланення нашых продкаў. Дарэчы, хачу адзначыць, што, апроч фінансавай дапамогі, нашы суседзі аказваюць, так бы мовіць, духоўную падтрымку навукоўцам, археолагам, музейным работнікам, літаратуразнаўцам, якія едуць працаваць у польскія архівы і музеі, дзе могуць свабодна атрымліваць копіі з усяго, што ім патрэбна. Між іншым, толькі што вярнуліся з Варшаўскага музея Адама Міцкевіча супрацоўнікі літаратурнага музея, якія дамовіліся аб тым, каб частка экспанатаў з Польшчы была выстаўлена ў музеі Міцкевіча ў Завоссі.

**— Апроч таго, што вы старшыня Беларускага фонду культуры, вы яшчэ і старшыня навуковай Рады Нясвіжскай Акадэміі. Нясвіж — гэта месца, таксама дарагое і для беларусаў, і для палякаў. Ці ёсць сярод выпускнікоў Акадэміі — гэтай летняй міжнароднай школы па падрыхтоўцы архітэктараў гістарычных ландшафтаў, — палякі?**

— Сёлета няма, аднак у першым выпуску былі, і мы спадзяёмся, што будуць і ў далейшым. У Нясвіжы вучацца побач беларусы, літоўцы, украінцы і палякі. Трэба сказаць, што сёлетні выпуск арыентаваўся ў асноўным на гісторыю могільнікаў, а найбольшыя праблемы з імі, бадай што, у нас і нашых суседзяў — расіян і ўкраінцаў. Мы яшчэ толькі вучымся па-сапраўднаму разумець, што могільнікі — гэта самы вялікі помнік, дзе ўсё разам — ландшафт, архітэктура, мастацтва, а самае галоўнае — тысячагадовая гісторыя (таму што звычайна могільнікі ставіліся на месцах больш старажытных пахаванняў, на былых курганах). Хачу выкарыстаць старонку вашай газеты, каб выказаць удзячнасць Цэнтру аховы гістарычных ландшафтаў і яго дырэктару Андрэю Міхайлоўскаму за ягоную вялікую дапамогу ў справе адкрыцця і плённай працы Нясвіжскай Акадэміі.

**— І апошняе, Уладзімір Аляксандравіч. На вашым стале я бачу кнігу "Волчын Станіслава Аўгуста", выдадзеную ў Варшаве, дзе вы ў раздзеле "Замест уступу" расказваеце аб некаторых варунках вяртання Польшчы астанкаў апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў час, калі вы працавалі першым намеснікам міністра культуры Беларусі і мелі да гэтага самае непасрэднае дачыненне. Вы пішаце аб той падзеі як аб "прыкладзе нашай сумеснай працы". Вы не змянілі свае думкі аб гэтым? Як-ніяк, але гэта — частка і нашай гісторыі...**

— Я мяркую, што гэта зроблена правільна, падтрымліваю словы майго калегі, віц-міністра Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы Тадэвуша Паляка, якія ён напісаў у лісце, якім суправадзіў гэтую кнігу: "Пераканаць, што наша сумесная праца ў выратаванні агульных здабыткаў культуры служыць дыялогу польскага і беларускага народаў, іх узаемнаму спазнанню і ўзаемаразуменню".

Інтэрв'ю правяла
Вольга ІПАТАВА

# РЭПАРТАЖ З МЁРТВАГА ГОРАДА

Каб яго ўбачыць, трэба мець добрае ўяўленне і фантазію. Альбо — веды. Георгій Васілевіч Штыхаў, доктар гістарычных навук, упэўнена ідзе з лагчыны да ракі Менкі, за якою крута ўздыбленыя ўзгоркі, амаль сутыкаючыся адзін з адным, ствараюць паміж сабою вузкі праход. Узгорак справа як бы зрэзаны нажом, на левым густа растуць дрэвы.

— Гэта быў уваход у старажытны Менск, — гаворыць Георгій Васілевіч. — Тут стаяла брама з тоўстых дубовых бярвенняў, адкуль ішла дарога на Малое гарадзішча, дзе стаялі палаты пасадніка, баяр, дзе, хутчэй за ўсё, збіралася веча...

Гарадзішчаў тут два. На другім, вялікім, месціліся паўзямлянкі, драўляныя хаты, дзе жылі менчукі X—XI стагоддзяў. Зрэшты, сама вёска, што размесцілася побач з валамі, таксама завецца Гарадзішчам. А ранейшы горад так і клічуць тут — Валамі: "Скаціна дзе, на Валах пасвіцца?" Хаця зараз, у халодны майскі дзень, тут толькі свішча вецер у голлях голых яшчэ дрэваў ды пеніцца брудная Менка, у якую ўпадае зусім ужо змялелы і забалочаны ручай Дунай, (яны абкружаюць, як і даўней, былы горад).

Калі мы ехалі сюды, на месца, дзе, як сцвярджае Георгій Васілевіч, знаходзіўся старажытны Менск, які ўпершыню ўспамінаецца ў летапісе 1067 г., і машына імчалася паўз сённяшняе аўтамабільнае торжышча і музей звычайнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, вучоны расказваў аб тым, што ўзгадала аб сапраўдным месцы "першага", успомненага ў летапісе месца, нарадзілася не ў яго.

— Гэтую думку — што сённяшні Мінск быў перанесены з ранейшага месца, магчыма, у выніку татальнага разбурэння, — выказваў яшчэ акадэмік Антон Мікітавіч Ясінскі ў сярэдзіне 30-х гадоў. Сярод гісторыкаў была вядомая ягоная праца "Мінск—Няміга—Дудуткі", але яна, на жаль, не была надрукаваная, а пасля, у час вайны, загінула. Пазней гэтую ж думку выказваў вядомы беларускі археолаг Аляксандр Ляўданскі (дарэчы, вельмі шкада, што пра гэтага выдатнага вучонага так мала ведаюць на Беларусі. Ён жа, сярод шмат чаго іншага, зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку, першы выказаў думку, што гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў Цэнтральнай Беларусі належалі балцкім плямёнам і да т.п.). Ляўданскі падтрымаў меркаванне Ясінскага наконт вядомага месца летапісу: "И проидоша ко Меньску, и меняне затворишася в граде. Ои же братья взяша Менеска, и исекоша мужа а жены и дети вдаша на щиты, и поидоша к Немизе", што, калі старажытны Менск быў на Нямізе, то наўрад ці трэба было пісаць "поидоша к Немизе". Апроч таго, мабыць, летапісец паўсюль гэтыя звесткі з вуснаў сведкі альбо ўдзельніка тых крывавых падзей, бо надта ўжо выразна апісаная гэтая страшная сеча. Але дзе ж тады мог быць гэты першапачатковы горад? Пошукі цягнуліся доўга, яны патрабавалі энтузіязму і ведаў.

Першыя раскопкі на валах, што захаваліся каля вёскі Гарадзішча, паказалі, што тут сапраўды некалі быў старажытны горад, з умацаванымі сценамі, з гандлем, які ішоў ажно ад Балтыйскага мора.

Георгій Васілевіч спыняецца каля Менкі. Расказвае. Гэта цяпер яна нагадвае простую ручаіну. Калісьці па гэтай рацэ плылі ладдзі і стругі, везлі разнастайныя тавары. Пра гэта сведчаць раскопкі. Частку экспанатаў, якія за многія гады гісторык Штыхаў знайшоў на гэтым гарадзішчы, можна ўбачыць у падручніку "Гісторыя Беларусі" для 6-х класаў, які ён разам з В.Ракуць нядаўна напісаў і выдаў. Сярод рознакаляровых пацерак асабліва вылучаюцца чорна-чырвоныя, з белымі палоскамі, што ўтвараюць як бы вочкі. Па іх можна датаваць пласты, бо пазней X стагоддзя такія пацеркі ў раскопках ужо не з'яўляюцца. Ёсць сярод раскопак шахматны конь, сякера, тысячы аскабалкаў гаршкоў, многія з іх з княжацкім знакам Рурыкавічаў — трызубцам, рыбалоўныя кручкі, бронзавыя фібулы...

— Я пачынаў тут раскопкі з 1975 года, — успамінае Георгій Васілевіч. — Памятаю, дзе што знайшлі. Кожная ж рэч нібы гаворыць — і пра свайго ўладальніка, і пра эпоху. Вось, напрыклад, бронзавая гранёная пацерка (як недасведчанаму здаецца) — гэта скандынаўская гірка, якую мы знайшлі падчас апошніх раскопак. А яна красамоўна сведчыць, ці, дакладней, пацвярджае, што некалі тут быў вялікі горад, куды прыязджалі і скандынавы...

Мы крочым па "горадзе", спыняючыся то каля вала, то пасярэдзіне О-падобнай пляцоўкі, як бы аблямаванай гладкімі сценамі ўмацаванняў, і я сапраўды нібы бачу дзяўчат, што насілі тыя шкляныя пацеркі, і дзецюкоў, што махалі сякерамі, якія, хаця і паржавелыя, але ж засталіся ў гэтай вось зямлі, праляжаўшы у ёй 930 гадоў. Так, столькі часу прайшло з таго жахлівага дня 3 сакавіка 1067 года, калі мяняне, застаўшыся без свайго слаўтага князя-абаронцы Усяслава, які быў на той час далёка, вырашылі не здаваца магутнаму войску трох кіеўскіх князёў, сыноў Яраслава Мудрага, што аблажылі горад. Барацьба ішла за самастойнасць Полацкага княства, за незалежнасць Полацкай дзяржавы. За яе і ляглі тут сярод пажарышчаў усе, хто мог трымаць у руках зброю... Можа, таму авальная пляцоўка, на якой зараз сярод леташняга быльнягу гаспадарыць вецер, здаецца мне... алтаром? ахвярнікам?

— Бачыце, якая чорная тут зямля? — паказвае Георгій Васілевіч на Гарадзішча, дзе ля дамоў тамсям ляжаць ужо ўзараныя соткі. — Гэта ж усё — культурны пласт. І, дарэчы, тут амаль усе жыхары, кожны ў сваю пару, дапамагалі мне ў раскопках. Праўда, цяпер на гэта ўжо няма грошай...

Аб тым, што тут быў старажытны Менск, сведчыць "ахоўная" дошка ля "ўваходу". І болей нічога няма. А магло б — ну, скажам, тая ж драўляная брама і тыя ж сцены гарадзішча, што на макеце ў рабочым кабінеце Георгія Васілевіча. Маглі б стаяць стэлы, на якіх высечаныя даты і радкі летапісаў. Ды ці мала чаго яшчэ? Вунь, у зямлі Шлезвіг-Гальштэйн над каркасам агромністай ладдзі вікінгаў наладзілі ангар, і побач працуе музей, які не пустуе ніколі. І ў нас жа раскапанага хопіць не на адзін музей... Дзе-нідзе, але і ў нас можна ўбачыць на кніжнай вітрыне: "Мінску — 930 гадоў". Праўда, гэтую дату адзначаюць хіба што ў некаторых установах культуры, і то — асобныя энтузіясты. Вось і мяне запрасілі ў адну з бібліятэк на мерапрыемства, прысвечанае гэтай даце, і я ўжо прыкідваю — чытаць нядаўна напісаную казку пра Менеска ці гаварыць пра паход Яраслававічаў?

... Раскажу я, бадай што, пра гэтую паездку ў мёртвы горад, які так і не паўстаў пасля разгрому. Можа, гэтыя дзеці, стаўшы дарослымі, пачнуць на зямлі ўзводзіць хаця б памяць пра тое, што з-пад магутных пластоў выцягваюць на свет божы, для навукі і для нашчадкаў, цяпер толькі археолагі? І праз семдзесят гадоў — да тысячагоддзя — адновяць хаця б часткова памяць аб продках, смелых і гордых?

Вольга ІПАТАВА

# 18 МАЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ



*Адзін з куткоў Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Пакроўская царква з в.Логнавічы.*

Старажытная архітэктура на Беларусі — гэта скарбы з мінулага. Сёння мы паспрабуем паказаць вам архітэктуру ансамбля слуцкага Падзамчышча.

Ад пачатку і на працягу ўсёй сваёй гісторыі Слуцк вядомы як горад з добра наладжанай рамеснай вытворчасцю. У цеснай сувязі з ёй развіваўся гандаль. Мясцовыя і прывезеныя тавары знаходзілі рэалізацыю на спецыяльна вызначанай тэрыторыі — гандлёвай плошчы. Як і ў іншых старажытных гарадах, у Слуцку яна размяшчалася каля дзядзінца, супрацьлеглым краем межавала з жылой забудовай — пасадам, а бераг ракі, да якой быў свабодны выхад, займала прыстань. Колькасць гарадскога насельніцтва з бегам часу павялічвалася. І пасад абкружыў дзядзінец і торг з усіх бакоў. Да цэнтра вялі і тут сыходзіліся галоўныя гарадскія вуліцы.

мамі або сярод гандлёвых радоў стаяла ратуша. Звестак аб ёй не захавалася, але, як сведчыць традыцыя, будынак, дзе размяшчаўся магістрат, заўсёды быў звязаны з гандлёвай плошчай.

У XVI—XVII стст. воку гледача адкрываўся з захаду жывапісны сілуэт размешчаных на розных узроўнях замкаў. Іх высокія, у некалькі паверхаў вежы завяршаліся стромкімі шатровымі дахамі. Разам з купаламі Успенскага сабора яны дамінавалі над усёй вакольнай забудовай.

Першыя прадстаўнікі роду Радзівілаў, якія сталі гаспадарамі Случчыны ў пачатку XVII ст., былі прыхільнікамі рэфармацыі. Князь Януш Радзівіл у 1617 г. у Новым горадзе закладвае кальвініскі збор.

На выгляд пабудоў XVII-XVIII стст. кладзе адбітак эстэтыка барока. Купалы храмаў становяцца

нія з гэтага часу мае выгляд трохнефавай базілікі. Сярэдні неф становіцца значна вышэйшы за бакавыя, пакрыты двухсхільным дахам, з невялікім купалком-сігнатуркай над алтарнай часткай. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам.

Бліжэй да канца XVIII ст. у жыцці горада пачынаюць адбывацца змены, якія ідуць не на карысць яму. Былая ўдзельная сталіца князёў Алелькавічаў, а потым не менш вядомых і магутных князёў Радзівілаў у XIX ст. уяўляе сабой ужо звычайны горад Расійскай Імперыі.

Адзначаныя змены адбіваюцца на характары будаўніцтва.Назіраюцца зрухі, звязаныя з паніжэннем статуса горада, пераразмеркаваннем акцэнтаў у палітычным і духоўна-культурным жыцці, а таксама з пэўнымі традыцыямі, якія па інерцыі ішлі з папярэдніх

# ВАНДРОЎКА ПА СЛУЦКУ

Гандлёвую плошчу займалі крамы, лаўкі, låткі, склады. З захаду да яе падступалі ўмацаванні дзядзінца: пракапаны роў з вадою, далей — земляны вал з драўлянай сцяною (вастраколам) па версе і вежамі. Сюды ў час небяспекі збіраліся жыхары, каб вытрымаць асаду непрыяцеля. Тут былі княскі палац, саборная Успенская царква, пабудовы заможных мяшчанаў. З боку пасада, сярод жылля і рамесных майстэрняў, на самым краі плошчы таксама стаялі значныя грамадскія будынкі.

Там, дзе выходзіла на плошчу вуліца Астраўская, на яе правым баку ў 1419 г. быў пастаўлены драўляны фарны касцёл. Народнае паданне, праўдападобна, захавала дату пачатку будаўніцтва, бо дакументы на пачатак утрымання першага пробашча прыводзяць год 1439. Гэты касцёл — найстарэйшы каталіцкі храм не толькі ў горадзе, але і ва ўсёй акрузе. Нездарма многа пазней мясцовыя католікі ў спрэчках з прадстаўнікамі рэфармацыі карысталіся прымаўкай: "Слуцкая фара старэй за кальвінскую веру". З нязначнымі зменненнямі свой выгляд касцёл захаваў да XIX стагоддзя.

Насупраць касцёла, на другім баку Астраўскай вуліцы, прыкладна ў сярэдзіне XV ст. з'яўляецца Уваскрасенская царква. Літаратурныя крыніцы не прыводзяць дакладнай даты пабудовы, а гавораць, што існавала яна яшчэ да 1483 г. ёй, верагодна ў час чарговага рамонту, наданы фундуш слуцкай княгіняй Аленай і яе сынам Юрыем Юр'евічам. У XVIII ст. гэты будынак разбіраецца і пазней узводзіцца новы.

У 1441 г. Слуцк атрымлівае Магдэбургскае права. Магчыма, што побач з вышэйзгаданымі хра-




больш вытанчанымі, двух- або трох'яруснымі. Мяняецца гатычны выгляд замкавых вежаў. Галоўная з іх, напрыклад, ужо мае купальнае пакрыццё.

Архітэктура Падзамчышча цяпер яскрава адлюстроўвае карціну шматграннага і супярэчлівага духоўнага жыцця грамадства. З гмахам замкавага Успенскага сабора пераклікаюцца купалы Уваскрасенскай, Варварынскай, Увядзенскай цэркваў, а таксама больш позняй царквы Св. Айцоў. Далей па Астраўскай вуліцы іх падтрымліваюць вярхі цэркваў Нараджэння Хрыстовага і Нараджэння Багародзіцы, за якімі каля Астраўскай брамы ўзвышаецца касцёл Св. Духа. Праваслаўныя храмы на плошчы фланкіраваны касцёламі: з аднаго боку — фарны, з другога — бернардзінскі ў гонар Св. Антонія.

У 1734 г. адбываецца рэканструкцыя будынкаў бернардзінскага кляштара. Касцёл Св. Анто-

часоў.

Новая эпоха ставіць апошнюю кропку ў гісторыі гарадскога архітэктурнага ансамбля. Актыўная атэістычная палітыка дзяржавы прыводзіць да масавага закрыцця храмаў, а потым і да іх знішчэння. У 1934 г. быў разбураны гарадскі Мікалаеўскі сабор. Закрытая Уваскрасенская царква ператвараецца у інтэрнат, а пазней яе будынак згарае. Бернардзінскі кляштар "па традыцыі" выкарыстоўваецца ваенным ведамствам. Ужо пасля Айчыннай вайны не стала касцёла. Тады ж была знішчана званіца разбуранага ў час вайны кальвінскага збора. У кляштарным будынку цяпер размяшчаецца маслабаза. Тэрыторыю былога Ніжняга замка і Падзамчышча цяпер займае сучасная тыповая забудова, якая творыць пачатак вуліцы пад назвай "Піянерская".

**Ігар ЦІТКОЎСКІ**
**Малюнак аўтара**
*Слуцк*

# НАРАЧ ЯК ВІЗІТОЎКА ДЗЯРЖАВЫ?

Жамчужынай беларускіх азёр называюць самае вялікае і самае прыгожае возера нашай краіны — Нарач. І што, пэўна, вельмі значна — возера валодае мноствам фактараў, што прыцягваюць да сябе людзей. Па-першае, яно прыгожае і чыстае. Не выпадкова, мусіць, і ў беларускай прозе, і ў паэзіі сотні строф, сотні кніжных старонак — пра нарачанскую прыгажосць. Хто аўтары слаўнага гімна? Ужо імёны іх — аргументы для праўдзівасці дадзенага сцвярджэння: Максім Танк, Міхась Лынькоў, Янка Брыль, Аркадзь Куляшоў, Ніл Гілевіч... А па-другое, Нарач валодае мноствам лекавых, лячэбных фактараў. Я не агаварыўся, сцвярджаючы, што менавіта возера ў цэлым, а не толькі яго вада. Вада лечыць толькі цела, а душу... Не выпадкова на берагах Нарачы размешчана больш за дзесяць шматпрофільных здраўніц і месцы ў гасцінічных комплексах не пустуюць ні ўзімку, ні ўлетку.

Выразную характарыстыку возеру ў сваёй кнізе "Край азёрны" дала даследчыца Вольга Якушко: "Можна з цвёрдай упэўненасцю сказаць, што возера Нарач займае ў Беларусі першае месца па чысціні і празрыстасці вады. Дно, засланае пяском і каменьчыкамі, праглядаецца да глыбіні 7 і нават 9 метраў. Багаты падводны свет адкрываецца назіральніку. Празрыстая вада, праз якую глыбока сягаюць сонечныя промні, дазваляе водным раслінам утвараць густыя зялёныя падводныя лугі, нябачныя берагі. Многія пытаюцца: чаму вада ў возеры Нарач такая празрыстая, ёсць жа ў Беларусі і болей глыбокія азёры, не падвержаныя такому моцнаму ўздзеянню ветру. І цяжка адказаць на гэтае пытанне адным сказам. Безумоўна, сваю ролю адыгрывае вялікая плошча возера і аб'ём вады ў ім, шырокае распаўсюджванне вакол пясчаных адкладанняў, "перамытых" ледніковымі водамі... Вялікае значэнне ў яго папаўненні маюць чыстыя халодныя грунтовыя воды".

Але Нарач, з ўсёй яе прыгажосцю, патрабуе сёння асаблівай да сябе ўвагі. Падштурхоўвае да гэтага і экалагічная сітуацыя не толькі у Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе. Возера Нарач, суседнія з ім не меней прыгожыя азёры патрабуюць аб'яднання ў адзіны курортна-турыстычны комплекс. Пазіцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у гэтым плане адназначная: "... Калі тут стварыць неабходную інфраструктуру і на першым этапе давесці да ладу ўсе тое, што ёсць, то мы будзем мець, ну, як раней у нас казалі, "залатое дно".

Нядаўна давялося сустракацца з кіраўніком адміністрацыі Мядзельскага раёна (на тэрыторыі якога, як вядома, размешчана Нарач) Іосіфам Францавічам Тарасёнкам. Вось яго пазіцыя па стварэнні на Мядзельшчыне сапраўднага курортна-турыстычнага комплексу.

— Сёння ходзіць шмат размоў пра Нацыянальны парк "Нарачанскі". Ужо нават у сталіцы распрацаваны праекты некаторых дакументаў. Але наш, мядзельскі, погляд, на ўсё гэта крыху іншы. Па-першае, адсечаная ад Нацыянальнага парку другая частка раёна нікім не абследавалася, хаця яна не меней каштоўная не толькі ў прыродным (буйныя журавінавыя балоты, лясы, прыгожыя ландшафты, запасы высакаякаснай пітной вады, рака Сэрвеч, што ўваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму, ёсць і другія аргументы) плане, але і ў культурна-гістарычным (прыгажэйшы ў Беларусі Будслаўскі касцёл аб'яўлены Святым месцам; тут прапануецца будаўніцтва рэзідэнцыі Папы Рымскага за кошт Ватыкана). Па-другое, не трэба забывацца пра тое, што на тэрыторыі раёна ёсць сельскагаспадарчая і прамысловая вытворчасць, якую варта рэарганізаваць такім чынам, каб яна ў большай ступені працавала на курорт.

Самыя добрыя памкненні ў адміністрацыі Мядзельскага раёна. Але фарміраванне велізарнага курортнага, турыстычнага комплексу патрабуе інвестыцый. Адкуль яны прыйдуць і ці прыйдуць увогуле на Нарач?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ФРУНЗЕ, 5

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2–3.)*

**І.Ш.:** Вось тут гаварылі пра часопіс "Першацвет". Увогуле радуе, што, нягледзячы на нашу беднасць, на мізэрныя ганарары, у літаратуру ідзе вельмі многа маладых. Калі сустракаешся з "першацветаўцамі" — душа радуецца. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты ведаюць тэорыю літаратуры, усе маюць універсітэцкую адукацыю альбо вучацца зараз ва універсітэце. Асабліва многа паэтэс...

**В.З.:** Вось што дзіўна, сёння сярод маладых творцаў наогул дамінуе жаночая плынь, ды і не толькі ў "Першацвеце". Я зусім нядаўна быў на факультэце журналістыкі, там была сустрэча са студэнтамі, дык як зайшоў у аўдыторыю і глянуў: адны дзяўчаты! Ці туды ж я патрапіў? У аўдыторыі было на ўвесь курс з дзесятак хлопцаў. Зусім адваротная прапорцыя той, што была некалі ў наш час. Фемінізацыя нейкая, ды і толькі! У мяне некалі нават параўнанне ўзнікла такое: фемінізацыя літаратуры і хімізацыя палёў.

**А.Р.:** Якое "ядавітае" параўнанне!

**В.З.:** Паспяшаўся, бяру свае словы назад. Пасля, прачытаўшы многіх філосафаў, нядаўна Мярэжкоўскага, прыйшоў да высновы, што ў наш час залішняй "камерцыялізацыі" грамадства, такая жаночая плынь у літаратуры і журналістыцы будзе, мабыць, не горшым духоўным паратункам. Відаць, Бог пасылае нам выратавальніц. Хаця і жанчыны сёння таксама ідуць у камерцыю... ды яшчэ як! Вось у Івана Пятровіча не так даўно напісана аповесць "Сатанінскі тур" якраз на гэтую тэму.

**І.Ш.:** Сюжэт такі. Перад Брэстам у турыстычным аўтобусе, пасажыры якога едуць у Польшчу з добра зразумелай вам мэтай, паміраe чалавек. Ведаючы, што пры такіх абставінах рэйс могуць адмяніць, пасажыры аўтобуса закідваюць мёртвага цюкамі і чацвёра сутак возяць такім чынам па Польшчы, вырашаючы свае камерцыйныя пытанні. Вось яна бездухоўнасць, амаральнасць нашага часу, у гэтым ёсць нешта сатанінскае. Пагоня за далярамі, за набыткам атручвае сёння душы людзей! Наша бяда, не толькі мая, але многіх празаікаў яшчэ і ў тым, што зараз у літаратуры няма станоўчага героя, яго цяжка знайсці ў нашай сучаснасці...

**В.З.:** Але ж у нейкім коле нашага грамадства гэтыя людзі лічацца за станоўчых: набытчыкі капіталу і здабытчыкі капіталу.

**І.Ш.:** Можа, гэта для некага і так, але адкуль у іх з'явіўся першапачатковы капітал? У нас жа з табой, Васіль, яго не было! Я думаю, што першапачатковы капітал у "новых рускіх" і "новых беларусаў" — крымінальны. Наогул, калі ж нарэшце ў нас з'явяцца капіталісты тыпу нямецкіх, шведскіх: сумленныя людзі, што будуць дбаць пра культуру нашай краіны. Ну як жа без культуры? У іх жа дзеці ёсць, у іх унукі ёсць, іх вучыць трэба, далучаць да сусветнай культуры, дык давайце, раскашэльцеся на культуру! Дзе ж яны, нашы Мамантавы, Траццяковы, няўжо не разумеюць, што пра родную культуру якраз сёння трэба добра падумаць і падтрымаць яе?

**А.Р.:** На жаль, Мамантавых і Траццяковых у нас пакуль няма. Ну, а як дапамагае СП дзяржава?

**В.З.:** Мы лічымся між іншых творчых саюзаў не на апошнім месцы ў стасунках з дзяржаўнай падтрымкай. Але перш за ўсё, канешне, трэба глядзець на справы выдавецкія. Нашы часопісы, газеты падтрымліваюцца дзяржавай. І за гэта наша заўсёдная ёй удзячнасць. Так было, і мы лічым, што так павінна быць, таму што кожны кіраўнік дзяржавы ведае, што без падтрымкі нацыянальнай культуры, нацыянальнай свядомасці і дзяржава сама па сабе разваліцца, прыйдзе ў заняпад, ва ўсякім разе зойдзе не туды, куды спадзяюцца нашы кіраўнікі. Калі пусціць на такі вось "Сатанінскі тур" увесь наш народ, дык і прыйдзем да таго, што побач з жывымі будзем трупы вазіць, прыйдзем да бездухоўнасці. А дзяржаўная палітыка, мудрая дзяржаўная палітыка якраз і заключаецца ў тым, каб падтрымаць тых, хто стварае духоўнасць сваім розумам, сэрцам, бяссоннем. Здаецца, гэта так лёгенька: сеў пісьменнік за стол і піша. А колькі высілкаў і эмацыянальных ды і фізічных на гэта затрачваецца! Людзей-творцаў, якія нясуць народу духоўны зарад, дзяржава павінна падтрымліваць! Такія людзі рэдка з'яўляюцца, гэта не тое, што нейкі чыноўнік узяў жменю, іх пасеяў, а на наступны год усё гэта вырасце ў дзесяцікратным памеры. Талент — гэта рэдкасць, рэдкасць прыроды, рэдкасць духу, і калі ён з'явіўся, трэба стварыць умовы, каб ён пачуваў сябе па-чалавечы, бачыў, што да яго ставяцца з добрым разуменнем і падтрымкай. І натуральна, што і душа будзе тады раскрывацца шырэй і глыбей. Тут ужо згадваліся праблемы выдавецкія. А для пісьменніка гэта — перш за ўсё, каб тое, што ён напісаў, як мага хутчэй знайшло дарогу да чытача.

Так што падтрымка, якую мы адчуваем з боку дзяржавы на сённяшні дзень — гэта добра, але гэтага, на жаль, мала.

**А.Р.:** Якая атмасфера ў СП пануе сёння?

**В.З.:** Саюз пісьменнікаў заўсёды нейкім сваім дэмакратызмам вылучаўся сярод іншых творчых саюзаў. Прынамсі, у нас ніколі не было нейкіх калятворчых плётак, інтрыг. Наш саюз неяк шчасліва ўнікаў усяго гэтага. Відаць, ад таго, што і кіраўнікі яго заўсёды былі высокай чалавечай культуры. Тут ужо ўзгадвалася праца Івана Пятровіча, а побач з ім працаваў Максім Танк, раней — Пятрусь Броўка, Іван Мележ, Янка Брыль, Пімен Панчанка. Гэта гонар нашай літаратуры, кожны сам па сабе багаты духоўна, натуральна кожны са сваімі падыходамі і поглядамі на жыццё, але і са сваім разуменнем чалавека. А калі чалавек разумее другога, то і ствараецца такая атмасфера: прыстойнасці, сяброўства, імкнення не перашкодзіць адзін аднаму. Кожны з нас разумее, што, перашкаджаючы творчаму чалавеку, перашкаджае і нейкім больш высокім катэгорыям...

**P.S.** Было яшчэ адно пытанне, якое так і не прагучала падчас нашай гутаркі. Ідучы на сустрэчу, падумала: "Як жа гэта ўдалося нашаму СП у такі складаны час захаваць сваё адзінства, не раскалоцца на два творчыя саюзы, як гэта сталася з Саюзам пісьменнікаў Расіі?" Але пакуль ішла размова, адказ на пытанне вызначыўся неяк сам па сабе. Ён вынікаў з таго, пра што гаварылі Васіль Зуёнак і Іван Шамякін: пакуль "каля стырна" творчага саюза такія кіраўнікі, для якіх духоўнасць чалавека і яго маральная каштоўнасць — галоўнае, датуль будзе еднасць і ўзаемаразуменне ў яго шэрагах.

**Алена РЫГОРАВА**

ЯК САЦРЭАЛІЗМ ПЕРАМОГ БЕЛАРУСЬ

# "ЕЗУІТ СКАРЫНА", РЫДЛЁЎКА ГУЛАГа І ЛУГАНСКІ СЛЕСАР...

## Артыкул другі

Перада мной — альбом А.Касцялянскага "Выяўленчае мастацтва Беларусі" з прадмовай І.Гурскага, выдадзены ў 1932 годзе. І ў прадмове, і ў артыкуле Касцялянскага, што надрукаваны перад выяўленчым радам, мы знаходзім звыклыя для таго часу сентэнцыі кшталту "езуіт Скарына", "дробнабуржуазны бунтар Каліноўскі", ён жа "герой польскай шляхты", "вялікая частка мастакоў вельмі выразна выказвала (на Першай Усебеларускай мастацкай выставе. — **Б.К.**) нацыяналістычныя тэндэнцыі, ідучы ў сваіх творах ад беларускіх цэркваў, Скарынінскай Біблііі, слуцкіх паясоў" і г.д. Нават творчасць рэаліста Івана Ахрэмчыка крытыкавалася за "фармалізм", "экспрэсіянізм", "буржуазную эстэтызацыю"; "партрэт Александровіча ягонага пэндзля з'яўляецца прарывам у творчасці мастака і выяўляе ўплыў буржуазнага нацыяналістычнага псіхалагізму".

Шмат крытыкі атрымлівае і іншы рэаліст — В.Волкаў — за "метады дробнабуржуазнага натуралізму" ў карціне "Каліноўскі". А Міхась Філіповіч? "У сваёй творчасці, — адзначае Касцялянскі, — ён выказваў настроі і спадзяванні беларускага кулацтва", "пісаў сялян абавязкова ў лапцях, ідэалізаваў стары, рабскі побыт, старажытную саху". Нават праект Дома ўрада ў Мінску аўтар альбома вызначае як "тыпова рэакцыйнае рэстаўратарства".

Хацелася б прывесці яшчэ адну вытрымку з гэтага опуса: "Нацыянал-дэмакраты ў розных установах (Інбелкульт, Наркамасветы, музей) развіваюць фашысцкія тэорыі пра беларускі нацыянальны стыль: Шчакаціхін у адным са сваіх артыкулаў гаворыць пра тое, што "беларускі нацыянальны стыль развіваўся на Беларусі на працягу многіх стагоддзяў і прыпыніўся ў сваім развіцці толькі напрыканцы XVII стагоддзя. Цяпер трэба толькі ўзнавіць перарваны ланцуг". Гэтыя спробы прадставіць мастацкі стыль як адзіную нацыянальную плынь кранальна аб'ядноўваюць беларускіх нацыянал-дэмакратаў з шавіністамі, якія таксама замазваюць класавую сутнасць рускай культуры. І тыя, і другія абапіраюцца на рэакцыйныя элементы нацыянальнай культуры, на культуру шляхты, паноў і буржуазіі, ігнаруючы рэвалюцыйна-дэмакратычныя і пралетарскія элементы гэтай культуры..."



Каментарыі, як той казаў, не патрэбныя. А яшчэ годам раней, у сакавіку-красавіку 1931 года, у Мінску адбылася Усебеларуская нарада мастакоў пры Галоўным камітэце па мастацтве БССР. Са спавешчаннем "Класавая барацьба ў выяўленчым мастацтве Беларусі" выступіў Ілля Гурскі. У рэзалюцыі паводле спавешчання, апублікаванай у часопісе "Маладняк" (№ 4, 1931), падкрэслівалася, што "пралетарыят на фронце выяўленчага мастацтва дасягнуў некаторых поспехаў. Сёння мастакі Беларусі сталі на шлях перагляду сваіх ідэалагічных і фармальных пазіцый, на шлях набліжэння сваёй творчасці да задач, што пастаўлены партыяй і ўрадам".

Разам з тым далей падкрэслівалася, што "сярод асобных мастакоў назіраюцца праявы фармалістычных тэндэнцый... вельмі выразная арыентацыя на буржуазнае французскае мастацтва і на дэкадэнцкі нямецкі экспрэсіянізм, што з'яўляецца яскравым сведчаннем класавай барацьбы ў беларускім выяўленчым мастацтве". У якасці прыкладаў браліся імёны Бразера, Зевіна, Аксельрода, Філіповіча.

Прывяду яшчэ адзін, характэрны для таго часу ўрывак з гэтай рэзалюцыі: "Беларускія нацыянал-дэмакраты, наладжваючы сваю брыдкую контррэвалюцыйную дзейнасць, імкнуліся выкарыстоўваць і выяўленчае мастацтва супраць дыктатуры пралетарыяту. Вельмі часта ў творах асобных мастакоў і нават Віцебскага мастацкага тэхнікума ў перыяд кіраўніцтва ім Керзіна і Касяровіча распрацоўваліся творы, чужыя рабочаму класу, напрыклад, творы мастака М.Філіповіча за 1921-25 гады (вось ужо атрымаў гаротны Міхась Мацвеевіч! — **Б.К.**), што ідэалізавалі шляхецкую мінуўшчыну, народныя забавы, адлюстроўвалі культуру кулацкай часткі вёскі, экспедыцыі шэрагу мастакоў для замалёвак цэркваў і царкоўнай аздобы; прасоўванне думкі, што беларуская графіка бярэ свой пачатак ад малюнкаў Біблііі, перакладзенай на беларускую мову ў XVI стагоддзі езуітам Скарынаю, прасоўванне так званага скарынавага стылю ў мастацкай практыцы шэрагу беларускіх мастакоў: Лебедзевай, Эндэ, Волкава, Тычыны; у Віцебскім мастацкім тэхнікуме... да 1929 года выкладаўся курс царкоўнай архітэктуры Беларусі, афармленне акадэмічнай канферэнцыі мастаком Грубэ ў нацыяналістычным духу з перавагай белых колераў, дзе цалкам адсутнічалі пралетарскія эмблемы і колеры, а таксама партрэты правадыроў рэвалюцыі. Мастакамі Бразерам, Азгурам, Сляпянам, Кругерам, Касцялянскім былі зроблены скульптуры і партрэты езуіта Ф.Скарыны. Быў створаны шэраг карцін, партрэтаў і скульптур, што ідэалізуюць Кастуся Каліноўскага... Ідэолагамі беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму наладжвалася праца сярод мастакоў, што арыентавала апошніх на буржуазны Захад і супрацьстаяла пралетарскаму цэнтру — Маскве".

У дужках адзначу, што менавіта ў гэты час Я.Купалу аб'явілі "выразнікам і носьбітам ідэалогіі дробнай шляхты", а Я.Коласа абвінавацілі ў тым, што ён сваю творчасць "напаўняе ліберальнай, нацыяналістычнай ідэалогіяй "нашаніўства". І што ў ягонай творчасці гучыць "тыпова нацыяналістычнае захапленне ўсім беларускім наогул, роднымі песнямі, роднымі вобразамі". Вось так! Аказваецца, любіць сваю Айчыну і захапляцца ёю — гэта і ёсць нацыяналізм? Праз шэсць гадоў, у кастрычніку 1937 года, гэтых жа пісьменнікаў абвінавацілі не толькі ў тым, што "у 1917 годзе... падчас вырашальных баёў беларускага народа за сваю волю яны пайшлі не з народам, а з нацыяналістамі..." але і "ў вырашальныя моманты гэтай барацьбы выказалі ў сваёй літаратурнай і грамадскай дзейнасці варожае стаўленне да Савецкай улады і партыі бальшавікоў".

З ліку прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі першым у мясарубку рэпрэсій трапіў таленавіты графік Яфім Мінін. За тое, што як мастак "дапамагаў апошнім рэшткам разбітых нацыянал-дэмакратычных элементаў праводзіць пад падманліва-нацыянальным сцягам сваю антысавецкую дзейнасць" і шкодзіў "нацыянал-культурнаму будаўніцтву", ён быў у 1937 годзе арыштаваны і неўзабаве расстраляны.



# ТАМ, ДЗЕ КАПАЛІ

## УСПАМІНЫ

Кажуць, што чалавек у першай палове жыцця часцей думае аб тым, што будзе, марыць аб будучыні, а ў другой — напрыканцы жыццёвай дарогі, наадварот — часцей успамінае аб тым, што было, што перажыў. І дзіўная рэч, я часта тое, што было шмат гадоў таму, бачу настолькі яскрава, настолькі рэальна, што быццам бы было яно ўчора-пазаўчора, і некаторыя дробязі паўстаюць у маёй памяці вельмі рэальна. І калі я "заглядваю" ў гэту галерэю свае памяці, то часта бачу сябе маленькім. Бачу, як недзе ў далёкім дзяцінстве, у самым пачатку дваццатых гадоў, мой тата з суседам дзядзькам Іванам прывезлі з Наваградка на возе, запханым саломаю, дзіўную рэч, прыкладна метровай даўжыні прыдарожны знак ці шыльду з надпісам. Называлася шыльда тарча. На ёй у цэнтры быў намаляваны белы арол на чырвоным фоне, а побач надпіс акуратнымі лацінскімі літарамі "Жэч Пасполіта Польска" і далей "Весь Кунічна, гміна Городэчня, повят Новогрудзкі, воевудство Новогрудзке". Гэтую шыльду назаўтра ж прымацавалі ў канцы вёскі каля дарогі. Для гэтага зрэзалі ці выкарчавалі ў лесе малады дубок, абчасалі, зрабілі слуп, абмазалі камель дзёгцем, прыбілі гэтую тарчу і закапалі у зямлю. Тата мне тлумачыў, што карані пакінулі, каб ніхто не мог выцягнуць слуп з зямлі і каб ён не падгніваў, бо гэта ставіцца на вякі. Гэта было зусім новае ў нашай вёсачцы, першы твор афарміцельскага мастацтва, які мне, як мастаку, запомніўся на ўсё жыццё. Мы, вясковыя хлапчукі, збіраліся ў канцы вёскі, нам вельмі падабалася забаўляцца каля гэтай тарчы. Усе мы пасвілі каровы побач на выгане. Сярод нас было некалькі большых хлопцаў, і аднойчы яны недзе знайшлі сапраўдную стрэльбу. У той час, пасля грамадзянскай вайны, гэтага дабра шмат знаходзілі ў лесе пастухі. Дык вось, самы старэйшы Васіль напільнікам адпілаваў люфу і прыклад і атрымаўся абрэз. Ён гэтым абрэзам вельмі ганарыўся перад намі. О, як я яму зайздросціў! Хацелася хоць рукою дакрануцца да сапраўднай зброі.

Аднойчы пад вечар ён дастаў пару патронаў і рашыў выстраліць з абрэза. Але ж проста страляць нецікава, трэба ў нешта папасці, і мы яму падказалі — у арла. Васіль прыцэліўся, грымнуў стрэл, куля пранізала белага арла, і ў тарчы засталася дзірачка. Стрэл у вёсцы справа, вядома, ж не частая, не будзённая, усе пачулі, затрывожыліся. Мама мне тлумачыла: сынок, гэта страшэнная падзея, справа палітычная — страляць у арла. Нікому ж хаця не кажы аб гэтым. Нагаварыла мне яшчэ ўсялякіх страшных слоў: за гэта могуць арыштаваць, пасадзіць у турму, забраць у які-небудзь лагер. Я паабяцаў, што нікому не скажу, што не чуў і не бачыў, як і хто страляў. Аднак праз пару дзён у вёску прыехалі два паліцыянты на ровэрах, скавалі рукі за спіною Васілю і павялі арыштаванага ў суседнюю вёску Гарадэчня ў пастэрунэк поліцыі паньствовэй — паліцэйскі ўчастак. Яму за зняваґу дзяржаўнага сімвала пагражала мо і не адзін месяц турмы. Што рабіць? Вечарам дзядзька Іван пазычыў у нас вялікі паліваны збанок і сказаў па сакрэту, што хоча занесці пшадоўніку, гэта значыць начальніку паліцыі, мёду, каб параіцца, як ратаваць сына.

Час тады быў трывожны. У нас дзейнічала Кампартыя Заходняй Беларусі, гарэлі панскія маёнткі, то там, то сям некага лавілі, даходзілі чуткі, што дзесьці злавілі партызан, застрэлілі камуністаў. Толькі што закончылася грамадзянская вайна...

Але мне найбольш запомніўся суд над Васілём. Я ўпрасіў маму ўзяць мяне ў горад на суд, які размяшчаўся ў Наваградку на Карэліцкай вуліцы, што ў бок Мінска. Невялічкая зала, на сцяне — белы арол і крыж з распятым Хрыстом. Суддзя ў чорнай сутане — як ксёндз у касцёле. Паліцыянты са стрэльбамі ўвялі Васіля і пасадзілі на лаўцы, што стаяла каля сцяны збоку, а самі сталі побач. Паліцыянты былі ў цёмнасініх касцюмах, шапкі — з акаванымі брылямі і раменьчык зашпілены пад барадою, гэта называлася службова. На нагах у паліцыянтаў — блішчастыя боты з гладкімі халявамі. Такія боты называліся факсТроты. Адсюль напэўна і прыказка: "Пазнаць пана па халявах". Суддзя загадаў усім устаць. Перахрысціўшыся, згаварыў кароценькую малітву, у якой былі, памятаю, словы просьбы да Пана Бога вяршыць справядлівы суд. Усе селі, а Васіль нейкім чужым голасам на пытанне: Кто стшэлял до орла, ты, псякрэф комуніста, большэвіку? — адказаў: Не, паночку, што не страляў. Тагды ўстаў яго бацька, дзядзька Іван. На ўсё жыццё мне запомнілася яго барадатая фізіяномія. Ён, паклаўшы два пальцы на евангелле, другою ўзяў драўляны крыжык, да якога прымацавана скульптурка распятага Хрыста, перахрысціўшыся, прысягнуў гаварыць праўду і толькі праўду. Сказаў, што гэта ён зрабіў тую дзірачку ў арле. А як то было? "Паночку, гэта было так. Як прыбівалі гэтую тарчу да слупа, то я заміж таго, каб заганяць цвік у край тарчы , спачатку забіў цвік пасярэдзіне, не звярнуўшы ўвагу, што там якраз намаляваны арол. Але цвічок сагнуўся, бо там быў якраз у гэтым месцы сучок, цвік сагнуўся, і акрамя ўсяго, быў сыры дубок. Таму я той цвічок выкінуў, а тарчу прыбіў новымі цвікамі, а дзірачка засталася, і ніхто на гэта не звярнуў увагі. Нават і не падумаў, што гэта праступак супраць польскай улады, я ж не вораг". "Прысягнеш, што гаворыш праўду?" — "Паночку, прысягаю", — адказаў дзядзька Іван. Не ведаю, ці тут памог гаршчочак мёду з кумпяком, які быў занесены начальніку паліцыі, ці прысяга, якую прынёс ён у судзе на біблії, але Васіля адпусцілі з сінякамі на твары.



Час ішоў далей, мы падрасталі, але мама мне не разтлумачыла, што дзядзька Іван абавязкова будзе пакараны Богам за ілжывую прысягу. У маёй свядомасці не мясцілася, што чалавек пад прысягаю можа казаць няпраўду. Але мама мне тлумачыла: сынок, гэта святая хлусня, інакш Васіля пасадзілі б надоўга ў турму. Часам чалавеку даводзіцца сведчыць ілжыва, хаця гэта бывае вельмі-вельмі рэдка, але ўсё роўна Бог за гэта пакарае, гэта вялікі грэх. Усё гэта мучыла дзядзьку Івана, і ён, будучы чалавекам набожным, не раз маліў Бога, каб Бог дараваў яму грэх.

Людзі старэйшага пакалення больш разбіраліся ў палітыцы і ўсё чакалі, што будзе далей. А мы, моладзь, жылі паўсядзённым жыццём, хацелася хутчэй стаць дарослымі. Некалькі чалавек з нашай вёскі ў першую імперыялістычную вайну былі ў бежанстве ў Расеі, пасля прымалі ўдзел у рэвалюцыйных падзеях, ваявалі па волі лёсу па розных баках. Мамін родны брат дзядзька Кастусь быў у бальшаві-

РОК-РАУНД

# У СТАТУСЕ МЕККІ ДЛЯ НЕФАРМАЛАЎ

Калі меркаванне адносна таго, што з'яўленню экстрэмальнага мастацтва спрыяюць самі ўмовы жыцця — слушнае, дык на Беларусі, як мне здаецца, брутальная патэтыка папросту павінна квітнець. Што, зрэшты, у нейкім сэнсе, і назіраем. Магчыма, дэс-, блэк— і дум-метал у нас пакуль што і не такія папулярныя, як, скажам, творчасць Аляксандра Саладухі, але ёсць такая перспектыва, што ў хуткім часе замест "Чужой милой" жыхары беларускай правінцыі будуць гарлапаніць песні "Сепультуры" ці "Дысайд".

Нядаўна ў аматараў пералічаных вышэй экстрэмальных музычных накірункаў надарылася сапраўднае свята. У Мінску адбыўся вялізны сэйшн з удзелам як беларускіх "заканадаўцаў стылю", гэтак і знакамітых гасцей з Малдовы, Расіі і Чэхіі. І мясцовыя фаны, натуральна, напоўніцу скарысталіся магчымасцю брутальна адцягнуцца пад брутальную музыку. Іх набілася ў не такую ўжо і цесную залу ПК Задзіночання глуханямых ажно пад самы дах. Прычым, моладзь сабралася на канцэрт не толькі тутэйшая — былі пілігрымы ці не з усёй Беларусі, якія надалі шэраму і звычайнаму будынку Палаца культуры статус своеасаблівай Мекі для нефармалаў.

Напэўна, дзеля таго, каб не парываць са спрадвеку ўсталяванымі традыцыямі беларускага андэграунду, канцэрт пачаўся са спазненнем ці не на паўтары гадзіны. Як ні дзіўна, публіка, якой нямала сабралася каля ўваходу ў ПК, паставілася да ўсяго гэтага з разуменнем і не пачала выплёскваць сваю дэструктыўную энергію на ні ў чым не вінаватыя прылеглыя будынкі. Хаця сёй-той і выяўляў сваё скрайняе незадавальненне, але, на шчасце, гэта рабілася толькі ў вербальнай форме, бяспечнай для наваколля.

Урэшце, сэйшн распачаўся, і народ неўзабаве ўтрапёна затросся пад зубадрабільныя гукі. Першымі ў бой пайшлі госці —гурты з іншых краін. Як на мой погляд, вельмі слушна, што хэдлайнерамі (тымі, чые выступы сканчаюць канцэрт, што лічыцца вельмі прэстыжным) у той вечар былі не яны. Найцікавейшае са зразуметага мной пасля іхніх выступленняў, як высветлілася — не толькі папсовыя спевакі любяць выцягваць з глядзельнай залы прыгожанькіх дзяўчат і прымушаць іх раўсці ў мікрафон свае песні. Такі стыль працы з публікай і ў вакаліста тульскага гурта "Sieged Mind". А што тычыцца ўласна музыкі... Дэс і блэк я, уласна кажучы, слухаю вельмі рэдка, але чамусьці падчас выступу малдаван дый расійцаў мяне апаноўвала навязлівае ўражанне, быццам тое, што яны граюць, я ўжо дзесьці чуў. Дакладней, у кагосьці.

Напружанне ў зале дасягнула апагею падчас выступу "гвазда праграмы" — чэшскай каманды "Крабатар". Хлопцы вельмі доўга і глабальна наладжвалі апаратуру, выцягнулі на сцэну расцяжкі з нейкімі жахлівымі малюнкамі-ілюстрацыямі да сваёй музыкі... І з дынамікаў загрымеў брутальны дэс, жорсткі, але, у прынцыпе, дастаткова традыцыйны і трывіяльны. І мабыць праз гэта ніякага моцнага ўражання чэхі на мяне, дый і не толькі на мяне, асабліва і не зрабілі. Што, зрэшты, цалкам зразумела: той час, калі на мінскай сцэне прэстыжна будзе з'явіцца і зорцы першай велічыні, яшчэ не прыспеў. А тых, хто цяпер завітвае да нас папіць піва, карыфеямі жанру наўрад ці назавеш.

Затое ў чарговы раз выявілі свой велізарны патэнцыял беларускія каманды "Эксгуматар" і "Годс Таўэр". Увогуле, мясцовая экстрэмальная музыка — гэта адзін з нешматлікіх на Беларусі прадуктаў, натуральна, калі можна яе так назваць, які з'яўляецца цалкам канкурэнтаздольным на знешнім рынку. Таму прапаную адпаведным установам тэрмінова распрацаваць дасканалы план па яе экспарце (жарцік, вядома, але...). Асабіста мяне найбольш уразіла музыка гурта "Годс Таўэр". Нягледзячы на тое, што гэты праект узнік на перыферыі, у Гомелі, ягоная творчасць карыстаецца велізарным поспехам у Мінску, дый і за заходняй мяжой нашай краіны — гурт паспяхова выступіў на некалькіх прэстыжных еўрапейскіх фестывалях. Што і не дзіўна, бо каманда гучыць напраўдзе звышпрафесійна і арыгінальна. Думаецца, арганічная сумесь арт-рока і дэса, шчодра разбаўленая этнічнымі элементамі, прывядзе ў захапленне не толькі заўзятых металаманаў. Сваім мастацтвам (а ў дадзеным выпадку гэтае слова будзе цалкам дарэчы) "Вежа багоў" можа зацікавіць і зусім далёкіх ад "экстрэмальшчыны" аматараў музыкі.

Зрэшты, нягледзячы на прафесіяналізм беларускіх музыкаў, які не мог не ўскалыхнуць публіку, без звыклай лыжкі дзёгцю, натуральна, не абышлося і на гэты раз. Ёю пачаставалі ўсіх сабраных тутэйшыя ахоўнікі парадку. Складаецца ўражанне, быццам мінскія арганізатары рок-канцэртаў дагэтуль не ўцямілі, што такое нармальнае еўрапейскае "сек'юрыты". Таму справа зазвычай даходзіць да скрайнасцяў: альбо ў зале пануе суцэльная анархія, альбо ўсе металаманы мусяць падпарадкоўвацца статуту пансіёна высакародных паненак. У дадзеным выпадку назіралася акурат другое. Яшчэ перад тым, як нага фана намацвала бруднаватую падлогу канцэртнай залы, ягонае цела скрупулёзна абмацвалася нейкімі хлопцамі ў камуфляжы. Калі тыя натрапялі на якісь алкагольны прадукт, апошні адразу экспрапрыяваўся. А людзі, якія падобнымі прадуктамі не захапляюцца, мусілі праз скрыгат зубоў цярпець гэты здзек бязвінна. Спачатку такая працэдура здалася мне нават прыкольнай, але калі я праходзіў праз яе ў восьмы ці дзесяты раз...

Зрэшты, для нашых фанаў такое стаўленне да іх супрацоўнікаў аховы і правапарадку, мабыць, не новае. Падобныя да вышэй апісаных нягоды ім, на жаль, даводзіцца трываць ці не на кожнай металёвай імпрэзе апошняга часу. І ў гэтым плане канцэрт адбыўся як звычайна...


Фота А.ПАЎЛЯК

# ПРЫЙСЦЕ НЕ АДБЫЛОСЯ

Напраўдзе, абяцанага тры гады чакаюць. Слушнасць гэтай народнай прымаўкі мэтанакіравана даводзілі і самыя розныя мінскія прадзюсеры, якія на працягу прыблізна памянёнага вышэй тэрміну абяцалі прывезці да нас легенду расійскай контркультуры Ягора Летава і яго гурт "Гражданская оборона". Але, нягледзячы на тое, што песні "ГО" спяваюць цяпер ледзь не навучэнцы малодшых класаў, і яшчэ колькі гадоў таму яны былі ці не самай папулярнай на ўсёй постсавецкай прасторы камандай, нешта ў іх паўсячасна не атрымлівалася. Дый і боязна было неяк, улічваючы хаця б тое, што сам Ягор чалавек па натуры вельмі своеасаблівы, і без традыцыйнага для некаторых нефармалаў біцця крэслаў аб галовы іншых нефармалаў абыходзіцца рэдка які канцэрт "Обороны". Не ведаю, як за галовы і іншыя часткі цела, але ж за папсаваную мэблю даводзіцца плаціць не каму-небудзь, а самім арганізатарам. І пакуль тыя скрупулёзна пралічвалі магчымыя выдаткі і страты ад дэсанта "Гражданской обороны" ў Мінск, простыя фаны цярпліва чакалі, перапісваючы адзін у аднаго шматлікія альбомы Летава і К° ды напаўняючы гукамі ягоных песень падземныя пераходы і цёмныя дворыкі.

І вось калі на мінскіх слупах дый парканах урэшце з'явіліся запаветныя афішы з назвай гурта, а па тэлебачанні паказалі, як Ягор млявавата дэфіляваў па мясцовым вакзале, раптам высветлілася: усім настолькі надакучыла чакаць гасцей з Омска, што шматлікія прыхільнікі творчасці "Гражданской обороны" даўно кінулі гэтую малапрыемную справу дый заняліся нечым куды больш для іх саміх патрэбным. Таму ніякага асаблівага ажыятажу мінская гастроль Летава ў тутэйшай публікі не выклікала. Нягледзячы на даволі танныя квіткі і больш-менш памысную рэкламу. А мне чамусьці здавалася, што на канцэрт сцякуцца процьмы нефармалаў з усёй рэспублікі і яшчэ да пачатку імпрэзы пераўтвораць канцэртную залу "Мінск" у руіны, змагаючыся за "месца пад сонцам", дакладней, пад дахам. Але нічога такога не было і блізка. Ва ўсіх ахвочых патрапіць на канцэрт атрымалася гэта даволі беспраблемна, а ў зале нават назіралася наяўнасць пустых месцаў.

У прынцыпе, сярод тых, хто патрапіў-такі на гэтую імпрэзу, асаблівай шкадобы адносна змарнаванага часу не назіралася. Але ж... Усе чакалі чагосьці значна лепшага за тое, што адбылося ў канцэртнай зале "Мінск". Нават не ведаю, чаму акцыя займела даволі гучны назоў "Рок прямого действия". Як на каго, але на мяне не тое што прамога, але ніякага ўвогуле "действия" ані гурт "Северное сияние" (экс-"Нюрнберг"), ані бязмерна экзальтаваная каманда "Красные звезды" па вялікім рахунку і не аказалі. Дый і сам Летаў, шчыра кажучы, таксама.

Першыя выглядалі на вялікай сцэне праз меру няўпэўнена, хаця нейкая схільнасць да таго, каб зрабіць саунд трохі менш прымітыўным за звычайны ўзровень расійскага якбыццам-бы-экстрэмальнага рока ў іх і назіралася. Найлепшай іх песняй мне падаўся выкананы на дваіх разам з лідэрам "Звёзд" Уладзімірам Селіванавым хіт "Нас осталось только двое". Ну, не ведаю, колькі іх там засталося, але ж выглядалі яны даволі пераканаўча. А сам Селіванаў і яго каманда парадавалі толькі тым, што ў аснове іх праграмы была досыць прыемная песня пра развітанне з дзяцінствам, а не якая-небудзь "Убей демократа". А што Летаў, якога ўсе так моцна чакалі... Гурт "Гражданская оборона" ў больш-менш поўным складзе ў Мінск-такі не прыехаў. Нягледзячы на тое, што Ягора суправаджала ўласная жонка, падыгрываць яму на канцэрце давялося музыкам усё тых жа "Красных звёзд", якія вывучылі песні Летава, мусібыць, у "пад'ездных" кампаніях. Дый і песні выконваліся збольшага старыя, хаця зусім нядаўна "ГО" запісала два новыя альбомы.

Дарэчы, нягледзячы на тое, што арганізацыяй канцэртаў займаўся найбольш сур'ёзны мінскі клуб "Рыф", гук у зале быў зусім не на ўзроўні. І ўвогуле, адносна экстрэмізму. Дырэктар гэтага клуба, экс-зорка "Радыё Бі-Эй" Уладзімір Шаблінскі вырашыў, напэўна, як мае быць "прыкальнуцца", узяўшыся за арганізацыю гэтага канцэрта. Бо лічы праз тыдзень "Рыф" правёў куды больш паспяховую акцыю "Рок супраць фашызму" (вядома, што Ягор Летаў апошнім часам вызначаецца сваімі чырвона-карычневымі поглядамі). І напраўдзе, навошта гэты фашызм, а, шаноўныя? Асабіста ў мяне баевікі "Русского национального единства", якія ахоўвалі сцэну, апранутыя ў сваю уніформу, выклікалі, мякка кажучы, мала сімпатый. І вельмі ўжо недарэчна яны глядзеліся на галоўнай сцэне нашай краіны, якой з'яўляецца, па сутнасці, зала "Мінск".

У прынцыпе, з нагоды візіту Летава "Рыф-клуб" і асабіста Шаблінскага можна толькі пашкадаваць. Бо за дзень да імпрэзы ў канцэртнай зале павінен быў адбыцца акустычны канцэрт Ягора ў памяшканні клуба. Але калі ля дзвярэй клуба пачалі збірацца першыя аматары творчасці "ГО", уладальнікі "Рыфа" ўжо ведалі, што Ягор у гэты дзень на сцэну не выйдзе. Прычыну гэтага дэмаршу нікому асабліва не тлумачылі. Толькі з неафіцыйных крыніц, зрэшты, даволі надзейных, удалося даведацца, што Летаў у гэты дзень быў проста не ў стане. Хаця, пэўна, і не варта корпацца ў падрабязнасцях чужога жыцця. Не ў стане, дык не ў стане... П'юць у Сібіры шмат, нічога ўжо тут не паробіш. Ну, а тое, што прыхільнікі камуністычнай ідэі не заўсёды спраўджваюць свае абяцанні нам, беларусам, таксама бачыць не ўпершыню.

**Аўтар матэрыялаў Гальляш СЬВІРЫН**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 15.05.97. у 16.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3446
Замова 2867
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**